„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Каранавірус і пандэмія — два словы, якія прыйшлося нам вывучыць у пачатку года. Неўзабаве яны спалучыліся і сталі нераздзельнымі не толькі адно з адным, але і з намі. Можна смела сказаць, што пандэмія каранавіруса арганізавала наша жыццё ў 2020 годзе. Асабліва адчулі гэта настаўнікі, якія, з аднаго боку, пратэсціравалі і свой імунітэт у школе, а з другога — былі вымушаны хутка засвоіць метадалогію і тэхналогію дыстанцыйнага навучання. Плён гэтага эксперыменту, думаю, будзем адчуваць і аналізаваць гадамі.

Калі трэба захоўваць дыстанцыю між людзьмі, варта звярнуцца да праверанага сябра — кніжкі. Гэта не толькі наш суцяшальнік у цяжкі час, але і незаменны дапаможнік у працэсе навучання. Таму важна прывіваць дзецям звычку чытання ад самых малых гадоў. У нумары знойдзеце сцэнарыі ўрокаў, абапертых на працы з канкрэтнымі творамі, але таксама прапанову бібліятэчных заняткаў, якія асвояць дзяцей з кніжкамі і, спадзяюся, заінтрыгуюць іх і заахвоцяць часцей карыстацца друкаваным словам.

Наколькі важна тое, што пасеем у чалавеку змалку, паказвае ўспамін пісьменніка Міхала Андрасюка пра сваю настаўніцу з пачатковай школы: „Ванда Бяроза была выдатнай паланісткай, з глыбокімі ведамі і адданай вучням. Яна першая звярнула ўвагу на маю схільнасць гуляць са словамі, будаваць з іх нейкія канструкцыі. Умела звяртала ўвагу на недасканаласці ў тых будоўлях, падсоўвала кнігі, пра якія я без яе нават не чуў бы. Першая сказала, што вершы неабавязкова рыфмаваць і ёсць іншыя тэмы, чым вайна, чатыры танкісты і сабака". Міхал Андрасюк быў таксама настаўнікам і пра той час нам расказвае.

Амаль усе мы тут, на Беласточчыне, вывучалі беларускае літаратурнае слова на паэзіі Віктара Шведа. На вялікі жаль, больш ён не парадуе новымі вершамі ні нас, ні нашых дзяцей ці ўнукаў. Нестар беларускай літаратуры ў Польшчы пайшоў з жыцця 22 кастрычніка. Не маглі мы не адвесці яму месца ў „Беларускім настаўніку".

Хаця з узростам усё менш радуемся змене календара, то 2020 год такі, што хочацца, каб ён як найхутчэй закончыўся. І з надзеяй чакаем 2021-га. Усяго добрага ў Новым годзе! Каб мы зноў маглі сустракацца і нармальна працаваць. І цікавых кніжак!

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Вучыўся і вучыў



Мікола ВАЎРАНЮК



Фота Паўла Грэся

— кажа пісьменнік **Міхал Андрасюк**, які некалькі гадоў працаваў настаўнікам. Размаўляе з ім **Мікола Ваўранюк**.

**Міхал Андрасюк** (1959 г. нар.) — аўтар кніг прозы: „Фірма" (Беласток, 2000), „Мясцовая гравітацыя" (Беласток, 2004), „Белы конь" (Беласток, 2006, пераклад на польскую мову — Беласток, 2011), "Вуліца добрай надзеі" (Мінск, 2010), „Wagon drugiej klasy" (Беласток, 2010), „Krzyżyk" (Беласток, 2015), „Поўня" (Беласток, 2018).

Узнагароджаны „Залатым апострафам" часопіса „Дзеяслоў" за прозу друкаваную на яго старонках у 2009 годзе, Літаратурнай прэміяй прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за кнігу „Белы конь" (2011), за кнігу „Поўня" другой прэміяй імя Ежы Гедройца (Мінск, 2019) і літаратурнай прэміяй „Гліняны Вялес" (Полацк, 2020).

*Пасля доўгага зімовага сну ў настаўніцкім пакоі ізноў пераапранаюся ў спартыўны касцюм. Некалі па ўсёй школе ляжала драўляная падлога і калі з настаўніцкага праз калідор я выходзіў на вуліцу, на кожны мой крок дошкі адгукваліся скрыпеннем, распавядаючы кожная сваю гісторыю. Гэтай падлогі даўно няма. Іду праз цішыню з заплюшчанымі вачыма і баюся расплюшчыць іх. Калі прыадчыню павекі, ці не разбурацца вокны і дзверы, і столь? А сцены, калі дакрануся да іх позіркам, ці не знікнуць, не разыдуцца, як кругі на вадзе, ды і вада тая знікне скрозь пясок?*

*(...)*

*Бачу іх зводдалі. Ёсць Марэк — маленькі ростам непаседа, жвавы, як ртутны шарык, і высокі, хударлявы Ярэк, і налітымускуламі, бы класічны барэц Яраслаў. Ёсць прысадзісты Пётрусь Малы і другі Пётрусь, той, што з-за дзіцячай усмешкі і задзёртага носіка атрымаў некалі мянушку Пінокіо. Некалькі крокаў убок адышоўся плячысты самотнік Ясь Капэля. Ёсць два старэйшыя браты Пётруся Малога — Генё і Славік, далей Кшысё, і Владзё Мілысын. З Владзем і Славікам мы аднагодкі і свой матч даўно адгулялі. Даю ім сцяжкі бакавых суддзяў і, пакуль адпраўяцца на месцы, пытаю:*

*— Усе прысутныя?*

*— Усе, правяраў, — кажа Владзё.*

*— А той вунь у святочным касцюмчыку, што за варотамі топчацца з нагі на нагу, хто ён і чаму не пераапранаецца?*

*— Яго якраз ты можаш не ведаць. Калі мы з табой бегалі за мячыкам, ён пехатою пад стол хадзіў. Ды што я кажу, пад стол пехатою. Яго зусім яшчэ на свеце не было. Смургаль.*

*— І ўжо паспеў туды?*

(Міхал Андрасюк, *Поўня*; Беласток, 2018 г., с. 136, 137)



Міхасю год

**— Міша, гэта імёны і мянушкі рэальных асоб?**

— Так, гэта мае былыя вучні з Пачатковай школы ў Палічнай.

**— Чаму столькі іх ужо па той бок?**

— Хм (*уздых і паўза*)... ведаеш, у Палічнай засталося многа самотных мужчын. А ў жыцці вясковых кавалераў заўсёды многа алкаголю. Хто быў слабейшы і не ўстояў перад гэтай спакусай, таго алкаголь знішчыў.

**— Ты быў за іх старэйшы ўсяго на некалькі гадоў. Толькі судзіў матчы, ці і гуляў разам з імі?**

— Па-рознаму. Калі хацеў пабегаць, то ганяў мяч разам з вучнямі. Такая ахвота з'яўлялася асабліва пасля зімы. Гімнастычнай залы ў нас не было. Урокі фізкультуры адбываліся на калідоры, але што гэта былі за заняткі. І месца мала, і мяшалі іншым настаўнікам і дзецям у класах. Тым не менш я б не сказаў, што нашы вучні былі неяк фізічна адсталыя. Мы спачатку не мелі таксама спартыўнай пляцоўкі (зрабілі яе потым грамадскім пачынам), але многа бегалі па лесе, балазе пачынаўся зараз за школьным участкам, добрыя месцы займалі ў міжшкольных лёгкаатлетычных спаборніцтвах, перш-наперш у кросе.

**— У якіх гадах Ты працаваў у школе ў Палічнай? І як туды трапіў?**

— Я працаваў настаўнікам коратка, з 1978 па 1983 год. Пачаў адразу пасля матуры. А як трапіў у Палічну? Гэтая вёска па-суседску з маёй Войнаўкай, хаця і іншая гміна. Войнаўка належыць да Дубіч-Царкоўных, а Палічна да Кляшчэль. Ад знаёмага пачуў, што там вакансія. Падаў паперы ў гміну ў Кляшчэлях і неўзабаве атрымаў адказ: прыняты.

**— Ты, бадай, з апошняга пакалення, якое магло трапіць у школы з сярэдняй адукацыяй.**

— Тады яшчэ на сяле было многа дзяцей. У кожнай большай вёсцы працавала школа. Настаўнікаў бракавала. Таму і бралі на працу маладых адразу пасля ліцэя, бо тыя з вышэйшай адукацыяй без праблем уладкоўваліся ў горадзе. Потым мала-памалу высылалі на педагагічныя курсы, завочныя студыі. Я таксама з пачаткам другога года працы стаў ездзіць у Цэнтр удасканальвання настаўнікаў (*Ośrodek Doskonalenia Nauczycieli*) у Беластоку. Заняткі вяліся па суботах і нядзелях, на зімовых канікулах ды іншых



Бацькі Міхал і Вера Андрасюкі з дзяцьмі Маняй і Мішам

выходных днях. Я там пазнаваў тайны працы з самымі маленькімі дзецьмі. А пасля завочна год правучыўся ў Акадэміі фізічнага выхавання ў Варшаве, дзе — магу пахвастацца — бачыў легенду тадышняй польскай зборнай па футболе, брамніка Яна Тамашэўскага. Усе расходы, звязаныя з павышэннем кваліфікацый брала на сябе школа.

— **А як Ты вучыў першы год без педагагічнай падрыхтоўкі?**

— Як умеў, так вучыў. Многа дапамагалі мне старэйшыя калегі. Правілі канспекты і давалі практычныя парады. Атмасфера ў школе была вельмі добрая, я б сказаў, сямейная. Мы не толькі разам працавалі, таксама і святкавалі (*загадкавая ўсмешка*), але не пра ўсё трэба пісаць, некаторыя рэчы павінны заставацца толькі ў памяці людзей, якія тое пражылі. Я таксама стараўся ў нечым пераймаць сваіх настаўнікаў з пачатковай школы і ліцэя.

— **Хто быў для Цябе такім аўтарытэтам?**

— У Пачатковай школе ў Старыне настаўнік музыкі Яўген Бяроза (потым пераехаў у Белавежу), які іграў на ўсім, што ўзяў у рукі. Пасля восьмага класа я ўмеў чытаць ноты, але ў ліцэі не было ўрокаў музыкі і забыў (а ў Палічнай гэта спатрэбілася б, бо вучыў музыцы). Яго жонка Ванда Бяроза была выдатнай паланісткай, з глыбокімі ведамі і адданай вучням. Яна першая звярнула ўвагу на маю схільнасць гуляць са словамі, будаваць з іх нейкія канструкцыі. Умела звяртала ўвагу на недасканаласці ў тых будоўлях, падсоўвала кнігі, пра якія я без яе нават не чуў бы. Першая сказала, што вершы неабавязкова рыфмаваць і ёсць іншыя тэмы, чым вайна, чатыры танкісты і сабака.

Вельмі добра ўспамінаю таксама ўрокі польскай мовы ў ліцэі з Янам Петручуком. Пайшла пагалоска, што ён піша кніжку пра сваё роднае Курашава, у якой будзе не толькі тое, як усе людзі там называліся, але і сабакі. Доўга і гучна мы смяяліся з гэтага, як нам падалося, чыёгасьці жарту. Аднойчы аднак, у цёплую пару, выйшлі мы з прафесарам Петручуком на школьны панадворак. Дакладна памятаю, як ён сядзеў на лаўцы, шырока расставіў ногі і расказваў нам пра кветкі з нашых лугоў. Ён мусіць умеў назваць усе. Я стаў думаць, а колькі я з іх ведаю і стала мне сорамна. Я тады падумаў, што мы вучымся ўсяму: індустрыі ў ЗША, сельскай гаспадарцы ў Аргенціне і надвор'ю ў Індыі, адно не пра наша наваколле і не пра нас саміх.

Вялікім аўтарытэтам у ліцэі быў для мяне настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі, у якога я, дарэчы, меў тройку. Я многа чытаў, але не тыя кнігі, што якраз былі патрэбнымі на ўроках, якія мне былі нуднымі, бо — разумееш — частка вучняў у класе не вучылася раней беларускай мове і іх трэба было падцягваць. А спадар Сакоўскі запамятаўся мне бацькоўскім падыходам да вучняў і яго аўтарытэт не растаяў у маіх вачах пасля заканчэння ліцэя.

Дарэчы, ведаеш, што я адрадзіў навучанне беларускай мове ў Палічнай?

— **А што, не было яе?**

— Калі я туды прыйшоў, не было. Казалі, што раней у Палічнай была беларуская мова, але чаму і калі спынілася яе навучанне, не ведаю.

— **Дык як Ты яе зноў увёў?**

— У пачатку другога года маёй працы школу наведаў Аляксандр Іванюк, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі і дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ён мяне якраз не вучыў, але ліцэй быў невялікі, то ўсе мы ведалі адзін аднаго. „Нейк непрыгожа, што ў Палічнай няма беларускай мовы,

— кажа мне Іванюк, — ты наш выпускнік, мову ведаеш, мог бы за гэта ўзяцца". І я ўзяўся. Дырэктарка Надзея Зінчук паставілася прыхільна. Калі на бацькоўскім сходзе аб'явілі, што можна запісаць дзяцей на беларускую мову, большасць так і зрабіла. У тым і палякі-каталікі з Белай Стражы і Пагулянкі. (Адна дзяўчына з Пагулянкі, Тэрэса Ільчук нават потым закончыла беларускую філалогію ў Варшаве.)

Дзеці ёсць, настаўнік ёсць, трэба пачынаць. А як? Нейкія старыя падручнікі знайшліся, такія, з якіх яшчэ я вучыўся. Савецкія, зусім чужыя нашай спецыфіцы, але што было, з тым давялося працаваць. Затое, памятаю, у школьнай бібліятэцы было многа беларускай літаратуры.

**— У якіх класах Ты вучыў?**

— Ва ўсіх, ад другога па восьмы.

**— Такім чынам Ты стаў настаўнікам беларускай мовы. Крыху нечакана. Але ж надзеі на тое, што будзеш працаваць з беларускім словам Ты падаваў яшчэ ў пачатковай школе.**

— У сёмым класе ў Старыне я нават нейкае сачыненне вершам напісаў. Усе былі вельмі здзіўлены, у тым і настаўніца Вера Анішчук. Але, вяртаючыся да Палічнай, я вучыў не толькі беларускай мове. Пачынаў як настаўнік фізкультуры, музыкі, а нават фізікі. Калі я спаткаў у Гайнаўцы майго настаўніка фізікі з ліцэя Уладзіміра Рушука і сказаў яму гэта, то ён рагатаў мусіць на паўгорада. Я ў яго быў слабенькім вучнем. А ў Палічнай мусіў укласці пэўныя веды маім выхаванцам. Праўда, больш кніжныя, чымсьці мае. А на ўроках фізікі трэба было яшчэ і эксперыменты рабіць. У нашай майстэрні былі вялікія рэастаты. Адзін з іх на ўроку я падключаў, а ён як не бабахне мне ў руках! На шчасце нічога нікому не сталася. Толькі электрычнасць у школе пасадзіў.

**— Ну, прынамсі вядома, што фізік з Цябе не атрымаўся. А калі б давялося тады выбіраць спецыялізацыю, які Ты прадмет выбраў бы?**

— Я найбольш любіў фізкультуру і моцна стараўся на ўроках. З бацькамі ўпарадкавалі мы спартыўную пляцоўку, зрабілі бегавыя дарожкі. З Гайнаўкі прывезлі цэлы «Жук» губкі і самі шылі матрацы для скачкоў увышыню флопам. Я гэты стыль сам вывучаў па тэлевізары. Калі б жа я тады меў такія магчымасці, як цяпер, калі б быў інтэрнэт, дзе можна было б прааналізаваць усе элементы і моманты руху! А тады ўсё рабілася як бы на вобмацак, усё пазнавалася на сваіх памылках. Тым не менш, мы многа ездзілі па розных

Дзед Дзмітрый, баба Вера і бацька Міхал. 1933 год



турнірах — гмінных, раённых, нават ваяводскіх. Былі нейкія ўзнагароды, дыпломы. Малады быў, з аднаго боку самому падабалася фізічная актыўнасць, а з другога — не разумеў, што выдатнымі спартсменамі мае вучні стаць не змогуць. Не тая база.

**— Колькі вучняў было ў школе? Ці ўжо тады можна было заўважыць прыкметы пазнейшай дэмаграфічнай катастрофы „Усходняй сцяны”?**

— У нашай школе — не. Палічна была люднай вёскай, а яшчэ дзяцей давозілі з навакольных, меншых, на трактары з такой будай на прычэпе. А дзеці з Вярстока хадзілі пехатою. Яны павінны былі вучыцца ў Дубічах-Царкоўных, але чамусьці лічылі, што да нас ім зручней і кожны дзень часалі тры кіламетры праз лес. Наколькі я памятаю, у школе было каля сотні дзяцей, па 15-16 вучняў у класе. Толькі ў адным сем, але ў чарговых пасля яго зноў усё вярнулася да сярэдніх паказчыкаў. Тым не менш, класы — мусіць, дзеля ашчаднасці — былі спалучаны і ўрок трэба было весці для двух адначасова. Гэта дадаткова ўскладняла працу, асабліва такому нявопытнаму настаўніку як я.

Міхал Андрасюк сярод настаўнікаў беларускай мовы. “Беларускі каляндар БГКТ” на 1983 год.



Ала Якубоўская з Нарвы.

Ірына Свентахоўская з Янова.

Валянціна Андросюк з Дашоў.

Янка Раманюк з Крыўца.

82 навучальным годзе, усяго толькі 7 мужчын. Значыць. жанчыны ў нас складаюць галоўныя кадры беларускай асветы. Дык слава, слава вам, дарагія сяброўкі, за вашыя глыбокія адчуванні патрэбы вучэння, у многіх выпадках азбуцы, беларускасці, і ў тым ліку роднай мове, найвышэйшаму матчынаму дару.

Настаўнікі беларускай мовы самыя верныя саюзнікі нашай беларускай арганізацыі. Усе яны дастойны таго, каб у кніжным выданні нашага календара захаваць іх вобраз назаўсёды, каб пазнаёміць з імі чытачоў календара і з гэтай каляндарнай трыбуны сказаць ім шчырае дзякуй за іх высакародную працу, звязаную непасрэдна з нашай нацыянальнасцю.

Змяшчаем здымкі некаторых настаўнікаў.

Вольга Стральчук з Крывой.

Аляксандра Гаворка з Маліннік.

Міхась Андросюк з Палічнай

Янка Добаш з Пашкоўшчыны.

54

55

**— Ты ўжо казаў пра добрую, сяброўскую атмасферу сярод настаўнікаў. А якія былі матэрыяльныя ўмовы працы? Настаўнікі жылі на месцы, ці даязджалі з Гайнаўкі?**

— У школе было сем-восем настаўнікаў, а папраўдзе настаўніц, бо калі дырэктар Юры Янюк перабраўся ў Гарадок, то я застаўся адзіным мужчынам. Як тады было? Маладых дзяўчат прысылалі па размеркаванні і яны праз год-два выходзілі замуж за мясцовага хлопца. І таксама станавіліся мясцовымі. Так было і ў Палічнай. Большасць настаўніц прыжылася ў вёсцы, мелі свае дамы, гаспадаркі. Дзве сям'і жылі ў службовых кватэрах.

**— А Ты?**

— Я першы год жыў у бацькоў у Войнаўцы і ездзіў у школу на ровары. Гэта якіх два кіламетры. А на другі год знялі мне ў Палічнай нават не кватэру, а цэлую хату. Калі я ў 1980 годзе ажаніўся, то кватэрнай праблемы ў нас не існавала.

**— Колькі гэта каштавала?**

— Не ведаю. Я не плаціў нічога. Праўда, мы там пражылі ўсяго два гады і дом трэба было вярнуць гаспадару, бо там здарылася такая сітуацыя, што ў сям'і ўладальніка згарэла жытло. Мы, праўда, маглі жыць і не ўступаць тае хаты, бо дамова давала нам на гэта права. Але, папершае, у людзей была бяда, а, па-другое, мы ўжо мелі дзе жыць — у жончынай сям'і ў Гайнаўцы. Неўзабаве зрэшты і мая кар'ера настаўніка закончылася.

**— На Твой кароткі час у школе выпалі рэвалюцыйныя гады ў Польшчы: заснаванне вялікага грамадска-палітычнага руху „Салідарнасць" у 1980 годзе і ўвод ваеннага становішча ў краіне 13 снежня 1981 года. Як гэтыя агульнапольскія хваляванні ўплывалі на вашу працу?**

— Практычна ніяк. „Салідарнасці" ў нас не было. Хтосьці потым мне расказваў, што бачыў дакументы, быццам усе настаўнікі з Палічнай запісаліся ў Патрыятычны рух нацыянальнага адраджэння, створанага камуністамі ў пачатку 1982 года дзеля падтрымкі палітыкі генерала Войцеха Ярузельскага. Я, аднак, упэўнены, што нікуды не запісваўся і ніхто мяне нават на гэта не агітаваў. Ды і наша дырэктарка была беспартыйнай, хаця яе намаўлялі, бо ж большасць дырэктараў належала да Польскай аб'яднанай рабочай партыі, а яна не запісалася і ўсё.

Памятаю, што як толькі ўвялі ваеннае становішча, то мы трымалі ноччу варту ў школе. Афіцыйна казалі, што трэба пільнаваць, каб ніхто школу не падпаліў. Гэта была, бадай, мая адзіная нязручнасць у Палічнай, звязаная з вялікай гісторыяй, але яна не цягнулася доўга. Пасля тыдня-двух тую варту адмянілі.

**— Ты пакінуў школу ў 1983 годзе, хай сабе і не багатае жыццё на дзяржаўныя грошы, але з пэўнымі забеспячэннямі і пайшоў на няпэўны хлеб прыватнага прадпрымальніка — каменшчыка.**

— Так склаліся абставіны... Напіўся быў неяк здорава ў Чаромсе, шукаў на вакзале цягнік у Гайнаўку... На пероне савецкі афіцэр бавіў час з польскім чыгуначнікам. Падумалася — падыду, папытаю, падкажуць жа. Паляк пагнаў мяне неяк культурна, нешта кшталту „ідзі ты адсюль". А савет груба — уёбывай! І так пайшло-паехала. Ну не будзеш ты, прыцапкаўшыся на маю малую радзіму, такім словам мяне. Пацярпела і шапка вайсковая, і вагоны. Далі мне два гады на тры ўмоўныя, а судзімым у школе не месца. Цвярозы беларус прамаўчаў бы, а п'яны — сам бачыш. П'янаму мора па калена, можа і на ўвесь СССР падняць руку. Але ў камбатанты не пішуся. Не быў камуністам, ды антыкамуністам таксама не.



# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 408

**МІХАСЬ АНДРАСЮК**

*нарадзіўся 2 снежня 1959 г. у Войнаўцы, што ў Дубіцкай гміне. У 1978 г. закончыў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Да 1983 г. працаваў настаўнікам. Цяпер займаецца рамяством. Жыве ў Гайнаўцы.*

*Асобныя творы паэта ўжо друкаваліся ў „Ніве”. Ніжэй змяшчаем падборку яго новых вершаў, якія падрыхтавала да друку Міра Лукша.*

С. Я.

**Прабудзі мяне**

прабудзі мяне, калі ноччу
закрычу, як той воран, праз сон,
калі чорныя сцены рагочуць,
разбудзі мяне чорнаю ноччу
і вазьмі у свой дом

дзе бяроза глядзіць у аконца,
дзе кроў сінюю з неба п'е лён,
дзе стаіць малінавае сонца,
дзе гарыць малінавае сонца
васільковым агнём

прабудзі, калі ў чорных бетонах
вецер цяжкай нагой прабяжыць,
раскажы, што ў бярозах і клёнах,
што ў траве маладосцю зялёнай
шуміць

**Восень**

сніцца дурная маладосць
песні-красуні і віно
сяджу я там як п'яны госць
а разышліся ўсе даўно

над вуліцай рабін кастры
гараць халодзенькім агнём
і жмурыць вочы дуб стары
кудлы рудыя чэша клён

мае сябры з малых гадоў
восень сядзіць нам на плячах
з лесу глядзіць галодны воўк
і бачыць наш дрыжачы страх

коціцца сонца без калёс
снапы праменняў у воз кладуць
і сукні жоўтыя бяроз
спадаюць ціхенька ў траву

гэта ж сукенкі тых дзяўчын
што у дурных гадах кахання
пратанцавалі не адзін
вечар да белага світання

* * *

Ёсць на зямлі
крыніцы слоў,
з каторых ваду
п'е каханне,
з прасоння будзіць
пажаданне
аглумлена вадою кроў.

Ёсць на зямлі крыніцы слоў.
Хаця ў далонях
нашых вечнасць,
чамусьці хочам недарэчна
туды дабегчы
стрымгалоў.

**Каляда**

У снег глыбокі паўзем на каленях.
Трава пад снегам спіць бяспечна.
Ў галовах кудлатых каляднае сена
і месяц — халодная свечка.

Маці з іконай гутарыць аб долі
дзяцей, што журавамі адляцелі
ў вырай,
п'е вуснамі з блакіту боль іх
і падымае крылы іх малітвай шчырай.

Скрыпяць у небе крывыя дзверы,
саламяныя хахлы выходзяць з садоў,
сядаюць з намі за стол павячэраць
без слоў.

А стол, як стол. У ім моц і мудрасць
дуба.
Моргае вокам сотняй пакаленняў
і падае маладым дрэварубам
хлеб прабачэння.

* * *

Над лесам ціха ходзіць вечар,
а лес сапе глыбокім басам,
неба гарыць мільёнам свечак
з бязмежнага іканастаса;

а першая свечка —
для святых,
другая
для грэшных
і сэрцам малых.

Падстаўце далоні, калі
воск цёплы ліецца каменнем;
вы, каторым баліць
сумленне!..

Міхал Андрасюк пачынаў з паэзіі. 1994 г.

**— Наведваў потым Ты сваю былую школу? Мо запрашалі Цябе на нейкія ўрачыстасці?**

— Ведаеш, я маю такі характар, што калі нешта раблю, аддаю сябе гэтаму поўнасцю. Але калі заканчваю нейкі этап, то ўсё — канцы ў ваду і не вяртаюся да таго. Так было і тут. Я нават не ведаю, да каторага года працавала Пачатковая школа ў Палічнай. Зачынілі яе дзесьці ў 1990-я гады. Казалі, што кнігі са школьнай бібліятэкі ляжалі на кучы проста ў двары і кожны мог браць-перабіраць. Я гэтага, праўда, не бачыў, толькі чуў, што такое было. Я ўжо згадваў, што ў той бібліятэцы было многа беларускіх кніжак. Дарэчы, беларуская мова была да канца існавання школы. Вучыла ёй Ірэна Саевіч, па мужу Тамашук.

**Як з сённяшняй перспектывы ацэньваеш сваё настаўнічанне?**

— Я лічу, што чалавек павінен займацца тым, што любіць, што ў яго атрымліваецца, пра што можа сказаць: гэта маё. Напрыклад я, хаця гаспадарскі сын, не любіў ніякай працы ў полі. Расказвалі, што нават калі мяне малога, у калысцы, бралі на поле, то я ўвесь час плакаў. А возьмуць у лес — ні гуку, ні слязінкі. Значыць, лес — мой, а поле — не. Сёння думаю, што быць настаўнікам, гэта таксама не маё. Але тады я любіў сваю працу і стараўся яе выконваць добра. Рыхтаваўся да ўрокаў, чытаў не толькі тое, што патрабавалася, але і шукаў кніжкі і часопісы, якія давалі мне больш грунтоўныя веды і пашыралі кругагляд. Не абмяжоўваўся ўрокамі, а тады многа было гурткоў зацікаўленняў. Я, як ужо сказаў, займаўся з моладдзю перш-наперш спортам. І хачу дадаць, што, нягледзячы на такіх недавучаных настаўнікаў як я, з Палічнай выйшлі людзі, якія закончылі вышэйшыя школы. Так што, відаць, не так і дрэнна



Фота Паўла Грэся

У Белавежскай пушчы.

мы вучылі. З другога боку — калі б у гэтых хлопцаў быў тады сапраўдны настаўнік фізікі, мо хтосьці і ў інжынеры праравўся б.

— **А куды ў асноўным ішлі далей вучыцца вашы выпускнікі?**

— Найбольш у Гайнаўку, лепшыя вучні ў беларускі ліцэй, хлопцы ў тэхнікумы: механічны ці апрацоўкі драўніны. Дзяўчаты даволі часта выбіралі школу медсясцёр у Бельску. Горшыя вучні ішлі ў падрыхтоўчыя прафесійныя школы, пасля якіх працавалі на чыгунцы, у ПОМе (Дзяржаўны цэх рамонту машын) у Кляшчэлях ці ў СКРы (Сельскагаспадарчы каапэратыў) на месцы ў Палічнай. Вялікі той СКР быў, абслугоўваў многа вёсак, бо гаспадары ў нашай ваколіцы не багатыя, сваіх машын не мелі, карысталіся паслугамі СКРу.

— **Той СКР у нечым тлумачыць вялікую колькасць халасцякоў у Палічнай. На вёсцы ўжо тады цяжка было хлопцам знайсці жонку.**

— То праўда, хаця Палічна здавалася быць у лепшай сітуацыі чым суседнія вёскі. Апрача СКРу, які даваў хлопцам працу, але не гарантаваў жонкі, школы, якая давала падставы адукацыі, была пошта, амбулаторыя, у якую прыязджаў фельчар, і крама. Памятаю, у пачатку васьмідзясятых гадоў знікла з крамы гарэлка, а албанскі каньяк неяк пратрываў быў. Бралі трактарысты па бутэльцы 0,33 каньяку, запіхалі за халяву гумафільцаў і крочылі ў высокую некась. І, лежачы ў траве, зазіраючы ў неба, папівалі з рыльца шляхетны трунак. Бачыў хто такое? А я *там былэм, м'юд і віно пілэм*. То-бок — каньяк албанскі.




На прэзентацыі «Поўні». Беларускі музей у Гайнаўцы, 2019 г.

Фота racyja.com

У 1990-я гады прыйшоў канец таму свету. Гэтыя ўстановы сталі зачыняць адна за адной. Найдаўжэй пратрымалася крама. Яна стаяла дакладна пасярэдзіне вёскі. Побач быў дзікі сад, з густымі кустамі ад вуліцы. У ім тыя даўно ўжо бесперспектыўныя кавалеры стварылі сабе прытульны куточак. Можна сказаць, што адтуль яны і адыходзілі...

**— ...каб згуляць у футбол поўняй з вечнасцю, якая дзесьці схавалася ў начной імгле І рэзультат матча прадказальны, бо *з вечнасцю ні прайграць, ні выйграць у яе*. Але дом на школьнай спартыўнай пляцоўцы то ты ўжо прыдумаў.**

— Якраз не. Там, дзе мы гойсалі за мячом, цяпер стаіць не адзін, а два дамы. Але ж няма ўжо такіх, якія маглі бы ачысціць поле. Ды і няма дзеля каго.

*На пляцоўцы, некалі зялёнай і роўнай бы стальніца, чужыя людзі, што аднае раніцы з'явіліся сюды няведама адкуль, збудавалі дом. Канешне, замінае чужы дом на сваёй зямлі, але ж хлопцаў шмат, маладыя і дужыя, а ён і не такі ўжо аграмадны, як малюецца ў дзённым святле. Хто за падрубу, хто плячом у зруб, заціснуць зубы, напружаць мускулы і нясуць гэту будыніну з яе спячымі гаспадарамі за вёску, пад лес, дзе прастаіць да золку. Нясуць асцярожна і бясшумна так, што з павуціны чужынскага сну не сарвецца ні адна нітачка.*

(Міхал Андрасюк, *Поўня*; Беласток, 2018 г., с. 137)

# Temat: PIERWSZE SPOTKANIE Z BIBLIOTEKĄ — LEKCJA BIBLIOTECZNA



Zdzisława KOROLCZUK

**Uczestnicy:** klasa I, zerówka

**Czas trwania:** 45 min

**Miejsce:** biblioteka szkolna

**Cele:**

- poznanie biblioteki i jej podstawowych funkcji
- wzbudzanie zainteresowania książkami i czytaniem, zainteresowanie dzieci książkami w języku białoruskim
- rozwijanie takich cech jak ciekawość świata, uwaga, koleżeńskość

**Metody:**

- słowna
- praktycznego działania
- aktywizująca

**Formy:** indywidualna i zbiorowa

**Środki:** kolorowe liście, zagadki, kilkanaście książek z literatury dziecięcej, czerwone i zielone koła

## Przebieg zajęć

**Działania wstępne**

ROZMOWA

Powitanie.

Krótka rozmowa kierowana pytaniami. Np.: Czy wiecie, gdzie się znajdujemy?

Po czym łatwo poznać, że jesteśmy w bibliotece, co stoi na półkach? Gdzie jeszcze zobaczymy dużo książek? Czym różni się księgarnia od biblioteki? Co to znaczy wypożyczyć? Jaki jest mój zawód? Kto pracuje w bibliotece?

# Część główna

ZWIEDZANIE

Nauczyciel: — Zapraszam was na zwiedzanie naszej biblioteki. Będziemy spacerować pomiędzy regałami, oglądać książki.

Podczas spaceru nauczyciel zwraca uwagę na to, że znajdują się tu książki również dla starszych uczniów, a wielkie litery alfabetu ułatwiają odszukanie właściwej książki. (Informacje powinny być maksymalnie oszczędne i krótkie.)

ZAGADKI

Nauczyciel: — Gdy dowiedziałam się, że przyjdziecie do biblioteki, postanowiłam przygotować wam zagadki. Napisałam je na ładnych karteczkach, ale stało się coś nieoczekiwanego. Przez okno wpadł wiatr psotnik i rozwiał je po całej bibliotece. Teraz leżą gdzieś pomiędzy książkami razem z jesiennymi liśćmi, a ja nie mogę ich znaleźć. Czy poszukacie ich ze mną?

Nauczyciel pokazuje liść (może być z papieru) z przypiętą kartką z zagadką. Szukajcie. (Kartki z zagadkami, częściowo widoczne, umieszczone są na półkach, pomiędzy książkami itp.)

Zagadki

- Jaka to dziewczynka, ma roboty wiele, a na pięknym balu gubi pantofelek?
- Stoi na stacji i pot z niej spływa — to z wiersza Juliana Tuwima ..........
- Na pewno znasz z książki tego Kubusia, on nosi imię Kubuś ........
- W chatce z krasnoludkami mieszkała. Królewna ....... się nazywała
- Kto mieszkał nad Wisłą i zionął ogniem jak ognisko?
- Na podwórku przeganiany, nielubiany wszędzie. Kiedy dorósł, stał się pięknym .........

Dzieci po znalezieniu oddają je nauczycielowi. Grupa siada w kręgu na dywanie (lub przy stole). Na środku leży kilkanaście książek z literatury dziecięcej. Nauczyciel czyta kolejno zagadki, a dzieci po odgadnięciu wskazują odpowiednią książkę.

ZAPOZNANIE Z KOLEKCJĄ KSIĄŻEK DLA DZIECI (w których występuje temat biblioteki, czytania, książki itp.)

- Lellemand O., *O wilku, który nie lubił czytać*
- Stelmaszyk A., *Zbawcy książek'*
- Widzowska A., *Myszka Precelka szuka przyjaciela*
- Widmark M., Tajemnica biblioteki
- Rocio B., *Najwyższa na świecie wieża z książek*

Dzieci swobodnie oglądają przygotowany zestaw książek, mogą się wymieniać. Osoby chętne opowiadają, co ich zainteresowało.

Nauczyciel: — Czy wiecie, że wśród wielu książek są też książki o bibliotece?

Bibliotekarz demonstruje książkę pt. *O wilku, który nie lubił czytać*. Czytanie głośne. Krótkie wypowiedzi dotyczące treści. Pokaz innych książek, w których jednym z tematów jest biblioteka.

CZĘŚĆ KOŃCOWA. EWALUACJA

Nauczyciel: — W naszej bibliotece jest wiele ciekawych książek.

Nauczyciel-bibliotekarz informuje, że oprócz książek w języku polskim w bibliotece są książki w języku białoruskim napisane przez Mirę Łukszę, Wiktora Szweda oraz Ludmiłę Rubleuską. Wszystkie książki znajdujące się w bibliotece można wypożyczyć do domu. Bibliotekarz krótko wyjaśnia zasady dotyczące wypożyczania: — Dziś po raz pierwszy wypożyczycie książkę, ale zanim to nastąpi, przekonamy się, czy jesteście już na to gotowi.

Rozdanie każdemu dziecku dwóch kartek (kół) w kolorze zielonym i czerwonym.

Nauczyciel: — Słuchajcie uważnie. Jeżeli zgodzicie się z tym, co za chwilę powiem, podniesiecie do góry koło zielone, jeżeli nie — czerwone.

Nauczyciel mówi pewne stwierdzenia dotyczące książek i biblioteki, a dzieci wykonują polecenie np.

- biblioteka to miejsce, gdzie można kupić książkę
- książkę z biblioteki można zabrać do domu
- książkę wypożyczoną należy zwrócić po dwóch tygodniach
- zawsze mamy czyste ręce, gdy sięgamy po książkę
- czytanie podczas jedzenia lodów jest bardzo zabawne
- bibliotekarz to nazwa zawodu
- można rysować i pisać w książce
- stronę, gdzie przerwałam czytanie, zaznaczam zakładką

CZY PODOBAŁY SIĘ WAM DZISIEJSZE ZAJĘCIA, CZY CHCECIE WYPOŻYCZYĆ KSIĄŻKĘ DO DOMU?

Nauczyciel informuje, że oprócz książek w języku polskim w bibliotece są książki w języku białoruskim napisane przez między innymi przez Mirę Łukszę, Wiktora Szweda oraz Ludmiłę Rubleuską.

Dzieci wybierają książkę z przygotowanego zestawu i wypożyczają do domu.

Pożegnanie.

Zdzisława Korolczuk, nauczyciel-bibliotekarz

## Scenariusz zajęć dla uczniów klas 4-6



Tamara KORNILUK

# Temat: POEZJA WIKTORA SZWEDA — ZAJĘCIA POPULARYZUJĄCE CZYTELNICTWO.

**Cele:**

- popularyzacja twórczości białoruskiego poety Wiktora Szweda
- integracja grupy
- rozwijanie zainteresowań czytelniczych i uwrażliwienie na piękno poezji

**Metody:**

- metody aktywizujące
- gra dydaktyczna
- metoda słowna

**Formy:**

- zbiorowa
- grupowa
- indywidualna

**Środki:**

karty do głosowania, pięć arkuszy A3, markery, kredki, klej, nożyczki, teksty wierszy, tomiki wierszy (ewentualnie instrumenty perkusyjne), płyta CD „Wasilki-wałoszki".

**Literatura:**


- Wiktor Szwed, *Wiasiołka*, ZG BTSK, Białystok, 1991
- Wiktor Szwed, *Wierszy Natalcy*, Orthdruk, Białystok 1998
- Wiktor Szwed, *Lata wiatr skrzydlaty*, Orthdruk, Białystok 2000
- Wiktor Szwed, *Smiaszynki*, Orthdruk, Białystok 2009
- Wiktor Szwed, *Śmieszynki*, Orthdruk, Białystok 2010
- *Encyklopedia dzieciństwa*, http://encyklopediadziecinstwa.pl/

**Czas:** 90 min.

**Uczestnicy:** klasy 4-6

**Wprowadzenie:**

Uczniowie po wejściu do sali są proszeni o zajęcie wyznaczonych miejsc i wysłuchanie następujących wierszy z płyty „Wasilki-wałoszki”: *Maja maleńkaja ajczyna*, *Suszanyja hruszy*, *Waryć bulbu babulka*, *Chaczu być Światym Mikałajem*, *Naczny arkiestr*, *Daloka da sonca*.

Powitanie uczestników przez nauczyciela. Podanie celu zajęć (spotkanie z poezją, zapoznanie z twórczością W. Szweda, wspólna zabawa itp.)

Następnie klasę dzielimy na kilka zespołów (w zależności od liczebności 3-4-osobowe). Nauczyciel informuje o zasadach gry. Gra polega na wykonaniu pięciu zadań, za które można uzyskać od 1 do 6 punktów. Poza poprawnością wykonania będą brane pod uwagę również współpraca oraz czas. Punkty będą zapisywane na specjalnych kartach, a podsumowanie nastąpi na zakończenie zajęć.

STACJA 1. Drużyny otrzymują kolorowe markery i arkusz A3 napisem Wiktor Szwed. Zadanie polega na wypisaniu znanych uczniom informacji dotyczących życia poety oraz skojarzeń do jego wierszy (metoda mapy myślowej: napisy, strzałki, proste rysunki itp.).

Po wykonaniu zadania następuje prezentacja prac (pożądana wystawka prac, np. przyklejenie na tablicy; prace zostaną ocenione w dalszej części gry).

Następnie nauczyciel przedstawia krótko sylwetkę poety i jego twórczości dla dzieci i zaprasza do dalszej części gry.

**Wiktor Szwed** — białoruski poeta, twórca wierszy dla dzieci i dorosłych, tłumacz, współautor podręczników do nauki języka białoruskiego. Zadebiutował na łamach tygodnika „Niwa” w 1957 roku. Autor następujących zbiorów poezji dla dzieci: *Wasiołka* (1991), *Wierszy Natalcy* (1998), *Śmiech nie grzech* (2000), *Śmieszynki* (2009; w tłumaczeniu na język polski 2010).

(Prezentacja poszczególnych zbiorków.)

W. Szwed powiedział, „że wszystko, co osiągnął w życiu, bierze swój początek z dzieciństwa...”.

„W wierszach dla dzieci [...] nawiązuje do tematyki miejsc ojczystych, przodków, rodzinnej wsi, zwyczajów wiejskich. Ten, kto czyta jego poezję, przenosi się na łono umiłowanych autorowi podlaskich pól, łąk, lasów, rzek, dróg, ścieżek. Ojczyzna woła w wierszach W. Szweda do siebie szumem Puszczy Białowieskiej, zapachem świeżo upieczonego chleba, melodią białoruskiego słowa. [...] Swoim słowem poetyckim naucza autor patriotyzmu i miłości do małej ojczyzny. Podkreśla swą wierność narodowi, językowi, przodkom, małej ojczyźnie również w zachowawczej formie wiersza rymowanego. W. Szwed pisze rymowanym czterozgłoskowcem tak, jak tworzona była cała poezja ludowa — śpiewana i mówiona. Z wielu wierszy dla dzieci wypływa również ponadczasowa myśl, że w ludziach należy szukać tego co dobre, tego co ich zdobi” — dr Anna Jeżewska, *Encyklopedia dzieciństwa*.

Poeta napisał ponad 2500 wierszy, do 70 skomponowano muzykę. Wiktor Szwed zmarł 23 października 2020 roku w wieku 95 lat.

STACJA 2. Drużyny otrzymują koperty z pociętym tekstem jednego z wierszy W. Szweda. Zadanie polega na jak najszybszym ułożeniu i naklejeniu tekstu na kartę. Dodatkowy punkt za wykonanie do treści prostej ilustracji.

STACJA 3. Drużyny otrzymują tomik poezji (ewentualnie kilka wierszy na kartce). Zadanie polega na wybraniu jednego utworu i przygotowaniu interpretacji grupowej (piękne odczytanie wiersza, np. z podziałem na role, w części zbiorowo lub indywidualnie; sposób wybierają sami uczniowie). Oceniana jest pomysłowość oraz poprawność językowa.

STACJA 4. Drużyny otrzymują tekst wiersza, do którego mają ułożyć melodię i zaimprowizować. Przed rozpoczęciem zadania nauczyciel przypomina, że do wielu wierszy W. Szweda została skomponowana muzyka. Podkreśla jednocześnie, że nie należy tego wykorzystywać, ale trzeba polegać na własnych pomysłach. (W zadaniu można wykorzystać zestaw instrumentów perkusyjnych.)

STACJA 5. Drużyny losują kartki z tytułami wierszy i zbiorków, do których mają ułożyć rebusy:

- *Moja mała Ojczyzna*
- *Lata wiatr skrzydlaty*
- *Śmieszynki*
- *Daleko do słońca*
- *Nocna orkiestra*

**Podsumowanie:**

Nauczyciel zapowiada plebiscyt na ulubiony wiersz W. Szweda.

Każdy uczeń otrzymuje karteczkę, jeszcze raz podchodzi do tablicy z wierszami poety, czyta zaprezentowane wiersze i wybiera utwór, który mu się najbardziej podoba, na karteczce wpisuje jego numer, następnie wrzuca kartkę do pudełka. Głosowanie jest tajne! Po zakończeniu głosowania dwóch wybranych uczniów lub nauczyciele podliczają głosy.

Podczas głosowania komisja podlicza punkty przyznane drużynom i przygotowuje się do ogłoszenia wyników.

Następuje podsumowanie, podziękowanie za udział w grze, wymiana wrażeń, ogłoszenie zwycięzców, przyznanie nagród itp.

Ostatnim punktem imprezy jest ogłoszenie wyników plebiscytu na ulubiony utwór i wzorowe odczytanie wiersza przez jednego z uczniów.

**Wybór proponowanych wierszy:**

**Мая маленькая айчына**

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што праляглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты — даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

**Сушаныя грушы**

Я памятаю час асенні:
Мне і дагэтуль пахнуць грушы,
Што ў печы хлебнай на чарэні
Матуля безупынку сушыць

І пах мядовы ў нашай хаце,
І выгляд груш сухіх харошы,
Што выгартае з печы маці
І спакваля ссыпае ў кошык.

Яны зімуюць у каморы,
І, асабліва, калі святы
Іх мама прыгаршчамі дорыць
Усім, хто толькі прыйдзе ў хату.

Матуля, помню, грушы варыць,
Ямо, ажно трасуцца вушы...
Зноў у мінулым мае мары:
Мне сняцца сушаныя грушы.

**Варыць бульбу бабулька**

Варыць бульбу бабулька,
Бульба ў саганцы булькае,
Бульба такая духмяная,
Бабулька ад паху аж п’яная,
Бульба нарэшце зварылася,
Бабулька страшэнна змарылася,
У ложак ёй коцяцца вочы,
Бабулька вячэраць не хоча.

**Хачу быць святым Мікалаем**

Знерваваная настаўніца на ўроку,
Пачала бязвольнага пытаць:
— Кім хацеў бы быць ты, абібоку,
Як зусім не хочаш працаваць?

— Быць хацеў бы святым Мікалаем,
Адказаў на гэтае Яўгень,
— Мо таму што ён падаркі мае?
— Не, працуе ў годзе адзін дзень.

**Начны аркестр**

У прыпечка шчыліне
Зайграў скрыпач-цвыркун.
І паплылі ў хаціне
Мелодыі са струн.

На шыбе мух сямейка
Ачнулася з дрымот,
І ўторыць на жалейках
Рапсодыю журбот.

Акорды моўкнуць, ціша ...
Не спіцца павуку.
Дзяцей сваіх калыша
У сетцы-гамаку.

**Далёка да сонца**

Мама вымыла кашулю
І сказала малой доньцы:
— Даражэнькая Ганулля,
Ты павесь яе на сонцы.

З недаверам пазірае
Ганя ў неба сумным зрокам:
— Мама я яшчэ малая,
А да сонца так далёка.

**Moja mała ojczyzna**
Podlasie moje, ojczysta kraino,
Tyś moje szczęście, mój serdeczny ból.
Zdeptałem boso wszystkie twe ścieżyny
Wijące się wśród malowniczych pól.

Tu się uczyłem cenić ciężką pracę,
Ojczysty język, drogi naród mój.
Toteż nie mogę nigdy ciebie stracić,
O twoje szczęście wciąż prowadzę bój.

Daleko jestem — wówczas tęsknię wielce,
A ujrzę — jam szczęśliwy znów.
Noszę cię zawsze w głębi swego serca,
Krynico moich marzeń, moich snów.

Tyś ukochana ma Białostocczyzno,
Kraino żubrów, moje Morze — wieś.
Byłaś i jesteś mą małą ojczyzną
Od swej kolebki aż po życia kres.

**Suszone gruszki**
Ten ciepły czas wrześniowy
Wspominać zawsze miło,
Kiedy w piecu chlebowym
Matka gruszki suszyła,

Zgarniała pogrzebaczem.
Wsypując je do kosza.
Ten zapach miodu raczej
Wdychaliśmy z rozkoszą.

A potem przez rok cały,
Szczególnie w wielkim poście,
Matula obdarzała
Gruszkami wszystkich gości.

Pamiętam, gruszki mama
Warzyła nam w garnuszku.
I śnią się wciąż nocami
Pachnące miodem gruszki.

**Babcia gotuje wieczerzę**
Już kartofelki w rondelku,
Wody bulgocą bąbelki.
Wrzenie się dłuży i dłuży ...
Babcię aromat odurzył.

Wreszcie gotowa wieczerza ...
Gdzie się zapodział talerzyk?
Wzrok jej na łóżko się toczy,
Babcię sen przemógł, zamroczył.

**Chcę być Świętym Mikołajem**
Zdenerwował się na lekcji nauczyciel:
— Proszę odpowiedzieć mi, ladaco:
Kim byś chciał być w swoim życiu?

— Chciałbym zostać Świętym Mikołajem —
Odpowiedział na to leń Leonek.
— Czy dlatego, że podarki daje?
— Nie, pracuje tylko jeden dzionek.

**Nocna orkiestra**
Świerszcz zagrał za kominem
Cichutko na skrzypeczkach.
Melodie smętne płyną
Do kota na zapiecku.

Rodzinka much na szybie
Zagrała na cymbałach,
Rapsodia jakaś niby
Na chwilę zadźwięczała.

Akordy milkną, cisza,
Pająki dwa, krzyżaki,
Dzieciaki swe kołyszą
W srebrzystych hamakach.

**Daleko do słońca**
Dzisiaj mama z wielkim praniem
Uporała się już w końcu.
Zawołała małą Hanię:
— Powieś bluzkę swą na słońcu.

Hania w niebo spoglądała
Z małą łezką pod powieką:
— Mamo, jestem taka mała,
A do słońca tak daleko.

Урок беларускай мовы — IV клас (2 гадзіны ) **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: НАВУКА ПЕСНІ НА СЛОВЫ ВІКТАРА ШВЕДА “МАЯ МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА”.



Аліна ВАЎРАНЮК

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- ведаюць асобу Віктара Шведа,
- разумеюць сэнс верша *Мая маленькая айчына*,
- ведаюць мелодыю песні *Мая маленькая айчына*,
- умеюць праспяваць песню *Мая маленькая айчына*,
- умеюць назваць пачуцці аўтара верша,
- разумеюць значэнне словазлучэння „малая айчына”.

**Формы працы:** індывідуальная, супольная, групавая.

**Метады працы:** размова, практыкаванні, мазгавы штурм, гульня, імпрэсіўная, экспрэсіўная.

**Навучальныя дапаможнікі**: дыск «Васількі-валошкі», песня *Мая маленькая айчына* з кампакт-дыска гурта «Белы сон», фільм з серыі «Носьбіты культуры» пра Віктара Шведа (https://www.youtube.com/watch?v=E8AeSn-hYl1M&feature=emb_title), карткі паперы, фламастары, слоўнікі.

1. Прывітанне. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
2. Падзел вучняў на групы па 3-4 асобы. Задача для кожнай групы: запісаць на паперы ўсе словы, якія ім асацыююцца са словазлучэннем „малая айчына”. Прыкладныя словы і словазлучэнні: айчына, родны край, дом, хата, сям’я, суседзі, мова, абрады, традыцыі, святы, песні, пушча, свае людзі, прырода, краявіды, Падляшша, Беласточчына, мой горад, вёска бабулі...
3. Прэзентацыя прац кожнай групы і размова з вучнямі пра разуменне словазлучэння „малая айчына”. Чаму запісалі такія словы і словазлучэнні? Абгрунтаванне запісанага.
4. Прапанова паслухаць верш Віктара Шведа *Мая маленькая айчына* ў выкананні аўтара з кампакт-дыска «Васількі-валошкі».

## Мая маленькая айчына

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што праляглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты — даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

5. Размова пра адчуванні вучняў ад пачутага верша. Тлумачэнне незразумелых слоў.
6. Аналіз верша.
   Што Віктар Швед называе сваёй Малой Айчынай?
   Як разумееце заканчэнне верша:

   „Мая маленькая айчына,
   Я твой адданы верны сын.
   Цябе ніколі не пакіну,
   Мая калыска, мой спачын.»
7. Вучні слухаюць песню *Мая маленькая айчына* ў выкананні гурта «Белы сон».
8. Навука тэксту і мелодыі песні згодна з методыкай.
   Спытайце вучняў, што ведаюць пра паэта. Прапануйце даведацца больш і паглядзець фільм.
9. Паказ фільма пра Віктара Шведа.
10. Размова з вучнямі пра асобу Віктара Шведа (чым займаўся, як жыў, што пра яго гавораць людзі).
11. Падвядзенне ўрока. Вучні спяваюць вядомыя ім песні на словы Віктара Шведа або слухаюць іх з кампакт-дыскаў.
12. Развітанне.

(Фота Аліны Ваўранюк, Адама Паўлоўскага, Марка Уладзімірава)

# *Віктар ШВЕД (1925–2020)*







З вучнямі Пачатковай школы н-р 4 імя Сібіракаў у Беластоку.



Юбілей 90-годдзя паэта, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку.



З дочкамі і сынам. Юбілей 90-годдзя паэта, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку.



З Анхелай Эспінозай-Руіз, іспанкай – беларускай паэткай.



З чытачом. Юбілей 90-годдзя паэта, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку.

Шасцікутнікі – Гексы

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Паважаныя калегі!



Іаанна ВАСІЛЮК

Сярод форм арганізацыі працы з дзецьмі ў школе — інтэрактыўнае навучанне, якое набірае папулярнасць у сучаснай школе. Прымяненне інтэрактыўных метадаў на практыцы спрыяе ўзнікненню і далейшаму развіццю ўсё новых спосабаў арганізацыі вучэбнай дзейнасці, а тэхналогія шасцікутнага навучання спрыяе гэтаму ў поўнай меры. Шасцікутнікі таксама можна называць сотамі, так як па форме нагадваюць пчаліныя соты. Існуе таксама назва гексы.

Кожная з шасцікутных картак — гэта ў пэўным сэнсе фармалізаваныя веды па вызначаным аспекце. Кожны з шасцікутнікаў злучаецца з іншым, дзякуючы пэўным тэрмінам або сувязям.

Ёсць некалькі варыянтаў выкарыстання гексаў на ўроках беларускай мовы:

1. Вы можаце ўпісаць навучальны матэрыял у шасцікутнік, разрэзаць іх, і прапанаваць вучням сабраць мазаіку. Напрыклад, з дапамогай дадзенага варыянта можна арганізаваць паўтор на ўроках беларускай мовы ў сёмым класе. Форма працы можа быць індывідуальнай, у пары, у групе. Я выбрала тэму «Славянская міфалогія — паўтарэнне пройдзенага матэрыялу». Вучні працавалі ў групах па чатыры асобы. Гексы былі запоўнены тэрмінамі, імёнамі, асноўнымі асаблівасцямі багоў і духаў, а таксама часцінамі мовы (прыметнікамі, назоўнікамі і дзеясловамі). Вучні здолелі не толькі лагічна злучыць шасцікутнікі, але і расказаць дадзены матэрыял, абапіраючыся на атрыманую форму.



2. Можна пакінуць шасцікутнікі пустымі для запаўнення, каб вучні маглі выказаць сваё меркаванне па зададзенай праблеме або тэме. Вы здзівіцеся тым злучэнням і высновам, якія вучні зробяць самастойна! Напрыклад, на ўроку, дзе ідзе гаворка пра бежанства 1915 года.

3. Кожная з груп запаўняе свае шасцікутнікі. Затым групы абменьваюцца і імкнуцца сабраць мазаіку сваіх сяброў. Дадзены варыянт можна выкарыстаць пры абагульненні матэрыялу па часцінах мовы. Адна група стварае соты «займеннік», другая група — «назоўнік», трэцяя група — «прыметнік» і г.д. Пасля злучэння гексаў можна не толькі выканаць заданне іншай групы, але і злучыць шасцікутнікі ўсіх груп у адну цэласць. Такім чынам за кароткі час адбываецца сістэматызацыя матэрыялу. Гэты варыянт патрабуе двух урокаў.

4. Колер вызначае пэўную кваліфікацыю. Задача вучняў злучыць шасцікутнікі, на розныя спосабы і з рознымі сувязямі. Гэта можна выкарыстаць на ўроку «Прыказкі і прымаўкі беларусаў». Можна прапанаваць дзецям паспаборнічаць на веданне прыказак. Хто хутчэй збярэ мазаіку (якая пра, якая група). Варта вылучыць іншым колерам ключавое слова ў прыказцы. Да гэтага слова вучні падбіраюць соты, каб атрымалася прыказка.

5. Можна раздрукаваць словы так на белай, як і на каляровай паперы, у залежнасці ад тых навучальных мэт, якія ставіце, але, у каго ёсць ахвота, можна выканаць гексы з малюнкамі, партрэтамі, фігурамі і г.д. Напрыклад, на ўроку па тэме «Класікі беларускай літаратуры» можна прапанаваць вучням успомніць пісьменнікаў і паэтаў XIX і XX стагоддзяў. На сотах змясціць іх партрэты, малюнкі, звязаныя з іх творчасцю або біяграфіяй, загалоўкі твораў, цытаты і г.д.

   На пачатку ўрока настаўніку неабходна пазначыць форму працы (індывідуальная, у парах, у групах), яе мэту, даць дакладную інструкцыю вучням, напрыклад: «Устанавіце сувязі паміж названымі паняццямі..., сумясціце фігуры адпаведна гэтым сувязям... Канешне раскажыце, што вам атрымалася...».

   І так, вучні, аналізуючы навучальны матэрыял, атрымліваюць магчымасць выбару прыярытэтаў, уласнай класіфікацыі і ўстаноўкі сувязей.

**Падвядзенне:**

На дадзены момант мала праведзена даследаванняў пра эфектыўнасць і ўплыў на якаснасць адукацыі „шасцікутнага навучання”. Аднак варта адзначыць, што навучанне пры дапамозе гексаў мае наступныя плюсы:

1. арганізацыя групавой працы;
2. паўтарэнне і абагульненне аб’ёмнага матэрыялу за кароткі час; дазваляе вучням выкарыстоўваць навыкі XXI стагоддзя ў працэсе навучання (супрацоўнічаць, класіфікаваць, абагульняць, вучыцца лагічна думаць);
3. актывізацыя вучняў;
4. адаптаванасць да розных узроставых груп;
5. варыянтнасць выкарыстання.

Адукацыйныя гексы можна таксама купіць на сайце выдавецтва „Civitas”: https://civitas.com.pl/pl/p/Heksy-edukacyjne/54

**! ПРАВЯРАЕМ ВЕДЫ НАШЫХ ВУЧНЯЎ**

# *Кантрольная па беларускай мове*



Іаанна ВАСІЛЮК

## Сінонімы і антонімы

**1. Падбярыце сінонімы да дадзеных слоў:**

знайсці — .............................. прыгожы — ..............................
кветачка — .............................. весялосць — ..............................
базар — .............................. злавацца — ..............................

**2. Замяніце ў сказах словы ў дужках словамі блізкімі да іх па значэнні сінонімамі.**

Раніцай дзеці пайшлі ў (гай) ..............................
Навокал было вельмі (прыгожа) ..............................
У (гаі) .............................. дзеці ўбачылі (многа) .............................. цікавага.
Дамоў яны вярталіся ў (вясёлым) .............................. настроі.

**3. Падбярыце антонімы да дадзеных слоў:**

многа — ............................ будаваць —............................
вялікі —............................ плакаць —..............................
добра —............................ блізка —............................
пачатак —.............................. дзень — ............................
верх — ...........................

**4. Замяніце ў сказах словы ў дужках на іх антонімы.**

Мама купіла вельмі (чэрствы) ............................ бохан хлеба.
Па правілах гульні трэба было (кідаць) ............................ мяч.

Усё лета стаяла яснае (дажджлівае) .............................. надвор'е.

Прыйшла восень, сяляне пачалі (саджаць) ................................ ураджай бульбы.

Словы для даведкі: *сухое, мяккі, збіраць, лавіць.*

**5. Знайдзіце антонімы ў прыведзеных прыказках і выпішыце іх.**

Горкая часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.

# Temat: CZY ADAM MICKIEWICZ WIERZYŁ W DUCHY? — *ROMANTYCZNOŚĆ* JAKO BALLADA PROGRAMOWA



Katarzyna SAWICKA-MIERZYŃSKA

**Cele lekcji:**

**Poznawcze:**

1. Uczeń zyskuje wiedzę na temat znaczenia i rangi ludowości w romantyzmie.
2. Interpretuje utwór Adama Mickiewicza, kluczowy dla romantyzmu.
3. Odnosi dziewiętnastowieczną antropologię, epistemologię i etykę do doświadczeń współczesnego człowieka.

**Metody i techniki:**

1. Indywidualna i wspólna praca z tekstem.
2. Heureza.
3. Elementy wykładu.

**Czas trwania:** 90 minut

**Materiały:**

1. Ballada *Romantyczność* Adama Mickiewicza
2. Niewykorzystane przez poetę wersje ostatniej strofy ballady, które odnotowała na podstawie autografów Zofia Stefanowska w artykule *O „Romantyczności". Próba zdrowego rozumu, w: tejże, Próba zdrowego rozumu. Studia o Mickiewiczu*, Warszawa 1976.
3. *Słownik terminów literackich.*
4. Fragment artykułu Jana Śniadeckiego *O pismach klasycznych i romantycznych*, „Dziennik Wileński" 1819.

**Przebieg lekcji:**

**I. Faza wstępna**

1. Nauczyciel przedstawia uczniom okoliczności powstania *Ballad i romansów* Adama Mickiewicza (kontekst biograficzny, historyczny, miejsce). Nawiązując do wiedzy wyniesionej przez nich ze szkoły podstawowej, przypomina, że datę wydania pierwszego tomu *Poezji* Mickiewicza (1822), w którym znalazł się cykl ballad inspirowanych białoruskim folklorem, uznaje się za początek romantyzmu w Polsce.

**II. Faza przygotowawcza**

1. Nauczyciel prosi jednego z uczniów o głośne odczytanie ballady *Romantyczność* i rozdaje kartki ze skserowanymi cytatami z zarzuconych przez Mickiewicza wariantów zakończenia tekstu (można też wyświetlić cytaty później, za pomocą rzutnika).

III. Faza realizacyjna

Uczniowie odpowiadają na pytania dotyczące ballady:

1. Jak należy zinterpretować motto zaczerpnięte z Szekspira? Co oznacza wyrażenie „widzieć oczyma duszy"? Czy nadal się go używa?

2. Co sugeruje tytuł ballady i fakt, że Mickiewicz umieścił ją na początku całego cyklu?

3. Jakie znaczenie można przypisać umiejscowieniu akcji utworu w ciągu dnia, w środku miasteczka? Jak to się ma do znanych uczniom opowieści o niesamowitych wydarzeniach (literatura, film)? Dlaczego zwykle dzieją się one nocą, w ustronnych miejscach?

4. Co przydarzyło się Karusi? Jak można opisać jej zachowanie? W jakim celu narrator, relacjonując to, co dzieje się z dziewczyną, zastosował strategię behawioralną?
   [Na prośbę nauczyciela jeden z uczniów sprawdza w *Słowniku terminów literackich*, co oznacza pojęcie „behawioryzm"].

5. Na jakie grupy można podzielić świadków niecodziennego zachowania Karusi?

6. Kim jest Starzec? Do jakiej autentycznej postaci nawiązuje Mickiewicz?

Nauczyciel podaje informację, że autor ballady przywołuje postać profesora Uniwersytetu Wileńskiego Jana Śniadeckiego, orędownika oświeceniowej wizji świata, który w artykule *O pismach klasycznych i romantycznych*, opublikowanym w 1819 roku na łamach „Dziennika Wileńskiego", pisał: „Romantyczność lubi przypomnienia dawnych obyczajów i zdarzeń narodowych, tęskni

do wieków przeszłych, kocha się w naturze prostej, dzikiej i nieokrzesanej! Czary, gusła i upiory nie są naturą, ale płodem spodlonego nieświadomością i zabobonem umysłu [...]. W prawidłach Horacego widzę wzór prawdy i piękności, widzę znajome świata i poruszeń ludzkich, widzę sztukę wypolerowanego nauką, a prowadzonego przyzwoitością towarzyską talentu, widzę naukę dla ludzi, upatrzoną nie w grubijaństwie pogrążonego kiedyś prostactwa, ale w obcowaniu wygładzonego towarzystwa, to jest nie w tym, czym ludzie mogli być kiedyś, ale w tym, czym są dziś. Teatra są dla miast i ich mieszkańców, dla ich zabawy i nauki, dla opowiadania im w rozrywce obyczajności, rozsądku i smaku; i wiem, czy takie zgromadzenie przystoi bawić dubami bab wiejskich?"

Po odczytaniu cytatu nauczyciel pyta uczniów, w którym fragmencie Mickiewiczowskiej ballady możemy rozpoznać parafrazę tych słów? Jak Starzec interpretuje/ocenia zachowanie Karusi i „gminu"?

7. Czy ktokolwiek, poza Karusią, widzi ducha zmarłego Jasia?

8. Dlaczego „ludzi gromada" skupia się wokół dziewczyny? Czy można ich postawę porównać do zachowania gapiów, którzy gromadzą się np. wokół ofiar wypadku i robią zdjęcia?

Przyjrzyjmy się fragmentowi:

Na ten upadek, na głos boleści,
Skupia się ludzi gromada.
„Mówcie pacierze! — krzyczy prostota –
Tu jego dusza być musi.
Jasio być musi przy swej Karusi,
On ją kochał za żywota!".

Wynika z niego, że mieszkańcy miasteczka nie zastanawiają się nad tym, czy Karusia naprawdę widzi ducha Jasia, tylko reagują modlitwą i wsparciem na jej cierpienie, dają też wyraz swojej wierze w moc miłości, która może być silniejsza niż śmierć.

9. Jaką postawę wykazuje tajemniczy podmiot? (należy zwrócić uwagę uczniów, że na podstawie informacji zawartych w tekście nie udaje się nawet stwierdzić, jakiej jest on płci — zaimek „ja" może się odnosić zarówno do kobiety, jak i do mężczyzny). Na potrzeby interpretacji możemy przyjąć, że jest to *alter ego* samego Mickiewicza.

I ja to słyszę, i ja tak wierzę,
Płaczę i mówię pacierze.

Z tych słów wynika, że podmiot przyłącza się do „prostoty".

10. Czy można mówić o pełnej identyfikacji podmiotu z „ludzi gromadą"?

 W udzieleniu odpowiedzi na to pytanie pomoże przyjrzenie się zarzuconym wariantom tekstu.

 1.
 Tyś syn mądrości, my natury dzieci,
 Rzekłem westchnąwszy głęboko,
 Tobie jest ciemno, to co nam świeci,
 U ciebie szkło, u nas oko.

 W tej wersji Mickiewicz deklaruje pełną identyfikację z ludową wizją świata, w której dopuszczalne są zjawy, duchy i inne niesamowite wydarzenia. W zaimku „my" mieści się lud i podmiot, wspólnie przeciwstawione Mędrcowi.

 2.
 Dziewczyna kocha; ty mądrości synu
 Napróżno patrzysz w tej gminie
 Dziewczyna tylko widzi pośród gminu
 Gmin tylko widzi w dziewczynie

 W tej wersji podmiot buduje dystans między własną i ludową wizją świata — tylko dziewczyna widzi ducha, a lud reaguje na jej zachowanie. Podmiot nie identyfikuje się ani z „gromadą, ani z Mędrcem.

 Ostateczna wersja ballady:

 „Martwe znasz prawdy, nieznane dla ludu,
 Widzisz świat w proszku, w każdej gwiazd iskierce,
 Nie znasz prawd żywych, nie obaczysz cudu!
 Miej serce i patrzaj w serce!".

11. Co to są „prawdy żywe" i czym się różnią od „martwych"? Co kryje się za imperatywem „miej serce"? [postulat empatii, otwartości, czułości, troskliwości wobec świata i innych ludzi itd.]

12. Czy te wartości są ściśle przypisane do jakiejś konkretnej warstwy społecznej, np. ludu? Czy można je realizować w dowolnym czasie i miejscu, bez względu na poziom wiedzy, wykształcenie?

**IV. Faza podsumowująca:**

Uczniowie, pod kierunkiem nauczyciela, formułują wnioski ze wspólnej interpretacji ballady Mickiewicza.

Fascynacja romantyków ludowością, folklorem nie oznacza, że nagle zaczęli oni — będąc wykształconymi ludźmi — postrzegać rzeczywistość oczyma chłopów, tylko że czerpali z ludowej wizji świata idee i wartości, które można realizować bez względu na kontekst społeczny. W *Romantyczności* możemy

też zaobserwować przejście od zagadnień z zakresu epistemologii (teoria poznania) do kwestii etycznych (wyznawane wartości i zasady postępowania). W pewnym momencie Mickiewicz przestaje się zastanawiać, czy duchy istnieją i kto je może zobaczyć, tylko skupia się na tym, co w postawie ludu wydaje mu się cenne: wrażliwość, otwartość na drugiego człowieka, umiejętność współodczuwania, ale też dystansowania się wobec sądów formułowanych pod wyłączne dyktando rozumu.

**Praca domowa:**

Napisz krótkie opowiadanie stanowiące ilustrację tezy, że w życiu nie zawsze warto się kierować rozumem i zdrowym rozsądkiem.

**Materiały:**

Z. Stefanowska, *O „Romantyczności". Próba zdrowego rozumu*, w: tejże, *Próba zdrowego rozumu. Studia o Mickiewiczu*, Warszawa 1976. Dokumentacja pracy Mickiewicza nad zakończeniem *Romantyczności*.

1.
Tyś syn mądrości, my natury dzieci,
Rzekłem westchnąwszy głęboko,
Tobie jest ciemno, to co nam świeci,
U ciebie szkło, u nas oko.

2.
Dziewczyna kocha; ty mądrości synu
Napróżno patrzysz w tej gminie
Dziewczyna tylko widzi pośród gminu
Gmin tylko widzi w dziewczynie

3.
Ty jej kochanka nie szukaj śród gminu
Na kochankę obróć oko –

4.
...gdy chcesz dojrzeć upiora i cudu
Miej serce i patrzaj w serce.

*Адам Міцкевіч*

# Рамантыка

Слухай, дзяўчынка!
— Не чуе, нябога...
Вось белы дзень! вось мястэчка!
Няма ў табе духу жывога.
Што навобмацак шукаеш?
З кім гаворыш, заклікаеш?
— Не чуе, нябога...

То як скала нежывая —
Вачэй не адрывае,
А раптам крутне галавою,
Слязьмі заліецца,
Бы нешта ўхопіць рукою...
Расплачацца... засмяецца...

«Ясік... ці ты зноў прыходзіш уночы?..
Ах, і памерлы... кахае!
Ціха, ціха, любы хлопча! —
Мачыха ўчуе старая!

...Ўчуе? Няхай! Ты ж памёр, мой каханы —
Ўжо ж ты даўно пахаваны!
Праўда? Ах, страшна... Чаму? Быццам кліча
Ясік аднекуль, гукае...
«Вочкі твае, ах, твaё аблічча,
Белая сукня такая...»

Белы ж і сам ты, мой дюбы,
Холад ідзе ад далоняў...
Тут вось, прыляж тут, на ўлонні...
Губы цалуюць хай, губы...

Ах, два гады ўжо... гэткім халодным
Подыхам тхне ад магілы!
Я да цябе пайсці згодна:
Свет мне нямілы.
Кепска мне, людзі тут злыя:
Толькі кпяць з майго плачу.
Слоў маіх проста не чуюць... глухія;
Бачыць не хочуць, што бачу.

Ўдзень прыйдзі, можа, ці ў сне, мой каханы.
Злучымся разам з табой мы...
Ясік, куды ты? Ты вымкнуў з абдоймаў —
Рана знікаеш ты, рана!

Ах! Голас пеўня, і хутка
Досвітак твар свой пакажа.
Ясік, куды? Пачакай жа:
Я ўся – у смутку.
Цешыцца з любым дзяўчына,
Бегае, падае долу...
Людзі на крык гэты цеснай сябрынай
Сталі наўкола.

Люд крычыць: «Модлы узносце старанна:
Хлопца душа побач, мусіць.
Ясь быць павінен побач з Карусяй,
Так пры жыцці ім каханай».

Я тое ўчую, тым захаплюся,
Плачу ды шчыра малюся.
«Дзеўка, паслухай!» - стары засмяецца
Ўбок, да натоўпу людскога:
«Верце вачам маім, гэтаму шкельцу —
Я ж тут не бачу нічога!

Людзі карчомныя байкі заводзяць
Клёкам сваім нецвярозым.
Дзеўчына трызніць, а ў люду, выходзіць,
Толькі ў блюзнерстве ўвесь розум».

Я ж у адказ яму: «Дзеўчына бачыць,
Люд тое чуе ахвоча:
Вера й пачуцці куды болей значыць
За шкло мудраца ды вочы.

Праўды змярцвелыя кажаш ты люду,
Ў вылінцы свет бачыш ды ў шкельцы.
А праўдаў жывых не спазнаў ты і цудаў —
Май сэрца, глядзі проста ў сэрца!

пераклад *Лявон Баршчэўскі*

**Сцэнарыі ўрокаў** Scenariusz lekcji języka białoruskiego dla uczniów szkoły średniej



Katarzyna SAWICKA-MIERZYŃSKA

# Temat: „NABRAWSZY ŚMIAŁOŚCI, CZŁOWIEK MOŻE ZMIENIĆ ŚWIAT I PRZESUNĄĆ KAŻDĄ GRANICĘ" — ANALIZA I INTERPRETACJA OPOWIADANIA *Граніца* MICHAŁA ANDROSIUKA

**Cele lekcji:**

**Poznawcze:**

1. Uczeń poszerza swoją wiedzę na temat twórczości Michała Androsiuka.
2. Interpretuje opowiadanie *Граніца*, wydobywając jego dosłowne (w tym kontekst historyczny) i symboliczne sensy.

**Wychowawcze:**

1. Uczeń rozumie znaczenie granicy jako kategorii politycznej i kulturowej. Ma świadomość, jak ważne jest dążenie do otwierania / niwelowania granic we współczesnym świecie.

**Metody i techniki:**

1. Indywidualna praca z tekstem
2. Heureza
3. Elementy wykładu
4. Dyskusja

**Czas trwania:** 45 minut

Uczniowie w ramach pracy domowej zadanej na poprzedniej lekcji mieli przeczytać opowiadanie Michała Androsiuka *Граніца*

**Wykorzystane materiały:**

1. M. Androsiuk, *Граніца*, w: tegoż, *Белы конь*, Białystok 2006.
2. Mapa świata.

**Przebieg lekcji:**

**I. Faza wstępna**

1. Nauczyciel, tuż po rozpoczęciu lekcji, nie wyjaśniając celu swoich działań, „przecina" salę szkolną na pół za pomocą sznurka bądź taśmy. Uczniowie wychodzą ze swoich ławek i zostają podzieleni na dwie grupy według dowolnego kryterium, np. kolor włosów, numer w dzienniku, elementy ubioru. Nauczyciel prosi uczniów, żeby wyobrazili sobie, że od tej chwili ta linia będzie granicą, której nie można dowolnie przekraczać; inicjuje dyskusję na temat różnych potencjalnych konsekwencji tej sytuacji. Jakie negatywne i pozytywne zjawiska wiążą się z obecnością granicy? Jakie emocje wywołuje?
2. Nauczyciel rozkłada na podłodze mapę świata, prosząc uczniów, żeby przyjrzeli się granicom państw na różnych kontynentach, a potem spróbowali odpowiedzieć na pytanie, jakie czynniki mogą decydować o przebiegu granic?

**II. Faza realizacyjna**

Uczniowie wracają do ławek, nauczyciel inicjuje rozmowę na temat opowiadania Michała Androsiuka.

1. Kiedy i gdzie rozgrywa się akcja opowiadania?
2. Jakie dwie perspektywy wykorzystuje narrator w opisie wydarzeń?
   a) perspektywa makroskopowa, na którą składają się: mapa, Historia, wielcy przywódcy (ich reprezentantem jest Stalin), stolica (Moskwa).
   b) perspektywa mikroskopowa: konkretna miejscowość (Opaka Duża) — jeśli mapa ma małą skalę, nawet jej na niej nie widać, los jednostek (Iwaniuk i jego potomkowie), dom, stodoła i inne elementy świata przedstawionego, składające się na najbliższe otoczenie bohatera.
3. W jakim celu Michał Androsiuk skonfrontował ze sobą obie te perspektywy? Do jakich refleksji skłania czytelników?

**III. Faza podsumowująca:**

Uczniowie samodzielnie formułują kilka zdań (indywidualna notatka) na temat relacji między wielką Historią a doświadczeniem jednostkowym oraz wpływu granicy na życie ludzi, biorąc pod uwagę zarówno opowiadanie Androsiuka, jak i wnioski wyciągnięte z przeprowadzonego na początku lekcji eksperymentu. Nauczyciel prosi kilku z nich o głośne odczytanie notatki.

**Praca domowa:**

Napisz krótkie opowiadanie (temat dowolny), którego akcja rozgrywać się będzie w świecie bez granic.



Міхась АНДРАСЮК

# Граніца

За граніцай лес, а за лесам — рускія. Лес мкне да воблакаў стройнымі бярозамі, цягнецца вальшынай, шуміць соснамі. Абымшэлыя пні знікаюць у зялёнай чупрыне малінаў і крапівы. І ў гэтых расчохраных малінах, і ў пякучай крапіве напэўна сядзяць рускія ды, выструніўшы вушы, перасейваюць шум дрэваў, разгортваюць смольныя занавескі сасновых водараў, вылузваюць з ветру чалавечыя словы, а, можа, нават і думкі. Навошта — ніхто не ведае, але дакладна так ёсць. Бо чаму, падступаючы да лясной сцяны, старыя міжвольна сцішваюць голас, саслізгваюцца ў шэпт, а іх старыя жанкі засланяюць вусны далонямі і шнырацъ нямымі позіркамі ў густым кустоўі?

Часам у святочным застоллі, калі сівая самагонка вострыць словы дакладна так, як рамень вострыць брытву, а асёлка касу, развязваюцца іх языкі. І тады кажуць, што раней, пры іх маладой памяці, усё было іначай — дарогі не ўпіраліся ў калючы дрот, а вольнымі стужкамі праз Высокае, Валкаставец, Амелянец пралягалі за гарызонт, на край свету, а можа далей, і ніхто не бачыў тут ні граніцы, ні рускіх.

Дзеці — а іх няшмат тут — слухаючы размовы падпітых мужчынаў, заходзяцца ад смеху, трымаючыся за жываты, прысядаюць на кукішках. Самыя кемлівыя, каму прарочыцца будучыня ў афіцэрах, а нават і варшаўскіх міністрах, ляцяць кулём дадому. Вяртаюцца адтуль з тоўстымі кніжкамі або вялікімі мапамі і, разглядаючы запісаны на паперы парадак свету, тыркаюць іх пад нос старым, здзіўляюцца шчырым дзіцячым здзіўленнем: „Дзядзькі добрыя! Вы што, абалдзелі ці што? Такія краіны, вялікія і магутныя, не бадзяюцца от так сабе, ад няма чаго рабіць, з аднаго кутка свету ў другі. Рускія былі і ёсць усюды, як Бог”.

Сёння ніхто ўжо не ведае, чаму найвялікшая ў свеце імперыя дайшла да маленькай вёсачкі, якую называюць Вялікая Апака і, лізнуўшы задыханым языком стадолу Андрэя Саўчука, не схрумкала яе, не каўтнула, а спынілася, тут якраз размяжоўваючы свет на польскі і рускі?

Калі б запытаць прафесараў-гісторыкаў, вядома, скажуць пра Ялту і Патсдам, пра стомленыя, нявыспаныя вочы генералаў і прэзідэнтаў, пра доўгія разважанні — над мапай свету і паасобным чалавечым лёсам.

Усё так. Але граніца ляціць стралой ад Такароў, ад Вулькі, Гайкоў, адважна перасякае балоты, лясы і рэкі, і толькі за Вялікай Апакай завіваецца ў калена, на дзіва падобнае да цыбука тытунёвай люлькі Іосіфа Вісарыёнавіча. Абмінуўшы стадолу, выструньваецца і прамой лініяй збягае ў Белавежскую пушчу. І гэтае калена магічным клічам прыцягвае мяне сюды кожны год. Кажу — „еду ў грыбы”, але гэта няпраўда. Выязджаючы з Варшавы, чую, як шуміць пушча. Пакідаючы за спінай Беласток, уяўляю цёплыя вулачкі Мястэчка. А потым перасякаю іх, не затрымліваючыся, бо прапала тут шмат дарагога, і калі няма магчымасці вярнуць усё, няма таксама сэнсу шукаць паасобныя фрагменты.

Спыняюся на граніцы. Паласа стаіць знаёмым цыбуком, і чарговы раз уяўляю крамлёўскі кабінет, і бачу, як маскоўскімі вуліцамі прагульваецца летняе сонца, аднікуль у нікуды пераплывае гаманлівая рэчка машын і пешаходаў, але тоўстыя муры паспяхова стрымліваюць і гоман, і спёку. Гаспадар Крамля разглядае вялікую мапу на сцяне, а за тры крокі ззаду пераступае з нагі на нагу ўсхваляваны капітан.

— Опака? Гідэ эта Опака? Что такое там асобэннае, что товарішчам полякам хотіте падаріць? — Іосіф Вісарыёнавіч пыхкае люлькай, адыходзіць ад мапы, чорныя вочы ўзіраюцца ў твар капітану Жлуктову. Ад такіх вачэй не схавацца і па другі бок зямнога паўшар'я, і пад зямлёй, і ў вадзе, і ў бяздонным блакіце нябёсаў, і капітан хвалюецца яшчэ больш. Губляюцца рускія словы, у халодныя абдымкі крамлёўскіх сценаў прарываецца родны, гомельскі акцэнт.

— Особенного нічого там няма. Маленькая дзярэўня, горка пасярэдзіне, — кажа капітан, а думкі ў галаве пырхаюць спалоханай птушкай: „Ну вось табе, падумае, барані Бог, перадражніваю, насміхаюся над яго пранонсам".

Але генералісімус, здаецца, зацікаўлены якраз цалкам іншым.

— Горка і всё? Это какая такая „горка"? Как наш Кавказ? А, можэт, даже выше?! — чорныя вочы надалей казычуць капітанскі твар куслівымі мурашкамі, а вось голас памякчэў, гучыць аксамітным тэмбрам. Аб цеплыні голасу Іосіфа Вісарыёнавіча чуў нават самы маленькі смургаль у гэтай вялікай краіне, калі раз прынамсі пашчасціла яму завітаць у школу або папрысутнічаць на сходзе піянераў. І капітан Жлуктоў, афіцэр, вопытны ў франтавых справах, здагадваецца на ляту: бацька Сталін сёння ў дасканалым настроі. У іншым выпадку, у іншых абставінах на чарговае „Горка і всё?" сказаў бы капітан Жлуктоў звычаёвае „Так точна, товарышч Сталін". А тут ён адзываецца зусім некарэктна: — Ёсць яшчэ самагонка ў Апацы, таварыш Сталін.

— Самагонка? Харошая?

— Вельмі харошая. Добрая, — упэўнена адказвае Жлуктоў. Мабыць, з вуснаў усё яшчэ не вымыўся салодка-горкі, тыднёвай даўнасці прысмак збраджанага жыта, мабыць, у страўніку тлее пякучым агеньчыкам успамін пра Апаку і старога Іванюка...

Ішлі дружынай ад Вулькі, вызначалі граніцу. Жаўнеры цягнулі на спіне драўляныя слупы, лапаты, вінтоўкі. Зброя асаблівая — самы неабходны і самы лепшы інструмент для абсталявання дзяржаўных граніц. Ва ўсялякі час і ва ўсякім месцы нашай планеты.

Капітан крочыў на чале, зазіраў у мапу, час ад часу прыпыняўся, крэсліў абцасам крыжык на распаленай сонцам зямлі і казаў: «Тут». А жаўнеры забівалі слуп у прызначанае месца. Сонечны дыск узлазіў на найвышэйшы хрыбет летняга неба, калі напнуліся на двор Іванюка. Капітан абцёр пот, глянуў у мапу і, разгартаючы абцасам курынае лайно, — чамусьці тут яго было вельмі багата, — паставіў крыжык у прытаптанай траве. Якраз каля пня, на якім Іванюк кляпаў касу.

— Тут, — сказаў капітан і ўздыхнуў з палёгкай...

— Што „тут"? — не зразумеў Іванюк.

— Граніца тут пойдзе, таварыш селянін.

— Граніца? Якая граніца?

— Нармальная, дзяржаўная. Польска-савецкая.

— Ну, як? Між хатай і стадолай граніца? — Іванюк спыніў працу. Глядзеў на капітана і досведам мінулых пакаленняў прадчуваў, што за ваеннымі мундзірамі зноў прыходзіць штосьці чужое, незразумелае, пагрозлівае.

Ухіляючыся ад мужыцкіх вачэй, капітан яшчэ раз паглыбіўся ў таямнічую мапу.

— Та-ак! Складанасць. Жыць будзеш у Савецкім Саюзе, а па сена давядзецца хадзіць у Польшчу. Бо тут стане граніца — абцасам, разбітым на еўрапейскіх дарогах і бездарожжах, паўтарыў крыжык, паглыбіў, замацаваў яго на век вечны.

А Іванюк глядзеў на мундзіры, якія апошнімі гадамі круціліся тут выпадковымі шкельцамі калейдаскопаў, заўсёды складваючыся ў невыпадковыя праблемы.

— Стаміліся? — ён адклаў касу. — Напэўна, і прагаладаліся?

— Ага, яшчэ як. Савецкі жаўнер заўсёды галодны, — маладзенькі шараговы вышпарыўся наперад іерархаў, заяўляючы неадкладную гатоўнасць да пачастунку. Капітан кінуў злы позірк у бок неразумнай фігуры. На вусны выціскаўся франтавы мужчынскі мацюк наконт скупога змесціва савецкіх жаўнерскіх страўнікаў. Аднак і ягоны, капітанскі, адмаўляючыся ад агульна прынятых вайсковых рэгламентаў, буркануў рэхам забытага сняданку. І капітан абяздолена махнуў рукой: — З'елі б штось, чаму не.

Палітыкі і дыпламаты, абсеўшы круглыя сталы ў грандыёзных кабінетах, з тысячы позіркаў і жэстаў складаюць бліскучыя мазаікі, перакідваюцца пустымі словамі або камянеюць у разумным маўчанні. Перакананыя ў несмяротнасці, ігнаруючы час, гуляюць у шахматы вечнасці. Просты чалавек крочыць да мэты простым шляхам. Уладкоўвае пад грушай дубовы стол, запрашае гасцей, стаўляе заткнутую газетай паўтарачку. Просты чалавек ведае цану часу і, не губляючы яго лішне, кажа сваёй жонцы: „Сонька, дай што-небудзь на стол". А яна знаходзіць у кладоўцы ладны кавалак сала і, вокамгненна распаліўшы печку, рыхтуе на кухні дымячую яечняй патэльню.

— А калі б так... — рука Іванюка сіне-зялёнай бутэлькай прычаляла якраз да шклянкі. Ён глядзеў у вочы капітану і штосьці пераЖоўваў у вусах... ці то сала, ці то слова... — А калі б так ад'ехаць крыху ўбок з гэтай граніцай?

— Як убок? Куды?

— Ну, крокаў на сто. Саюзу гэта ж тое, што сабаку муха. Там вунь, за Саўчуковай стадолай паставіць яе...

— Няма такой магчымасці, — капітан кульнуў шклянку, закусіў яечняй, паправіў шкваркай, рукавом абцёр вусны. — Немагчыма! — паўтарыў. — Сам бацька Сталін вызначыў. А ягонае слова і полк танкаў не адменіць.

Але Іванюк, мала знаёмы з сапраўднымі законамі вялікага свету, верыў, што па агульных законах і канстытуцыях, якія пішуцца пяром чалавечага

спачування і шчырасці, кожнаму, нават гэтаму капітану, дазваляецца мяняць лёсы да лепшага без згоды генералаў і іншых начальнікаў. І таму сіне-зялёныя паўтарачкі вытыркаліся з усіх бакоў. Вырываліся раз з левага фланга, другім разам з правага, крочылі цэнтрам. Жоўтыя кускі сала ападалі на стол і, быццам шрапнелі, разрываліся, рассыпаліся асколкамі шкварак. Капітан адчуваў, як даручаны яму адрэзак граніцы выслізгвае з рук. Апошнімі сіламі, адбіваючыся ад пякучых салютаў, учапіўшыся рукамі за дубовы бункер стала, ён усё яшчэ выстойваў пазіцыю: — Нельга. Граніца — гэта граніца.

І тады Іванюк з сакрэтных сваіх боепрыпасаў вычараваў апошні аргумент. Памаленьку, саноўна, бы магутны Т-34, дайшла да стала пузатая бочка мёду. Прыпынілася, прыцэлілася і залатым, салодкім языком ляснула па абаронцах польска-савецкай граніцы.

Першы капітуляваў капітан, затым старшыня, а следам за камандзірамі пасыпаліся і шараговыя жаўнеры, якім было, папраўдзе, усё роўна — так ці іначай вырашыць начальства, абы не канчаўся нечаканы пачастунак.

Часцей за ўсё прычынай капітуляцыі бывае страх. Звычайная настальгія па сонцы, што заўтра ўзыдзе без нас, шкадаванне жанчын, што ўсміхнуцца каму другому, балючая думка пра ўнукаў, што не прыбягуць нядзельнай раніцай па цукерку ці пяшчоту. Але ў чалавечым жыцці здараюцца хвіліны незвычайныя, і тады капітуляцыя нараджаецца з адвагі. Розныя бываюць крыніцы чалавечай адвагі. Адны высмоктваюць яе з матчынага малака, другія высысаюць з жытняй самагонкі. Набраўшыся смеласці, чалавек можа змяніць свет і перасячы любую мяжу.

— А чорт з табою, старык. За стадолай Саўчука, кажаш? Што ж, пасадзім там граніцу. Саюз вялікі, а бацька далёка — адкуль яму ведаць.

Потым, змяшаўшы сала з мёдам, дружына салідарным салютам ванітавала за Саўчуковай стадолай. У месца, асвечанае крывёй страўніка, жаўнеры забівалі гранічны слуп.

Ноччу сніліся капітану кашмарныя сны. Высыпаліся з мораку бела-чырвоныя і чырвона-зялёныя слупы. Пераўтвараліся ў салдацікаў, фарміраваліся ў баявы ўзвод, у карны атрад. „Плі!" — голас нябачнага камандзіра выдаўжаўся рэхам выстралаў.

На досвітку ён абудзіўся, абвёў вачыма сцены. Побач на падлозе спачывалі жаўнеры — стомленыя ўчарашнім днём і вячэрай. „Ага, значыць, у Іванюка і начуем", — мільганула ў галаве. З іконы глядзеў на капітана Хрыстос. У паўсвятле поранка вочы Хрыста наліваліся сур'ёзным, задуменным позіркам Іосіфа Вісарыёнавіча.

— Усё мы ведаем, усё мы бачым, — казалі гэтыя вочы. І з чатырох куткоў пакоя выпаўзаў страх, акірэчваў капітана, прысаджваўся на грудзі, напіраючы каленямі на страўнік, выціскаў душу высока, да самага горла. Капітан апускаў вейкі, затым адрываў іх, глядзеў у ікону і ўжо бачыў там не сур'ёзны позірк Вісарыёнавіча, а добрую, сінявокую ўсмешку старога Іванюка.

— Малайчына, хлапец. Абяцанне стрымаў, — сінявокім шэптам калыхаўся паўзмрочны пакой. У гэтых сініх вачах капітан знаходзіў нешта знаёмае. Пакуль не ведаў што, але думкі міжвольна крылілі ў родныя мясціны. „Бацька... Такія вочы ў майго бацькі. Дакладна".

— Усё мы ведаем, усё мы бачым, — з першым голасам пераклікаўся другі, і капітану прыпомніліся баі пад Варшавай, і ўсе тыя бомбы і гранаты, што чорнымі ніткамі ў адзін вузел звязваюць жыццё і смерць. Падумаў яшчэ і пра кулі, што прасвісталі побач і, ці не першы раз, пашкадаваў: чаму ж абмінулі ўсе...

За сняданкам капітан азваўся: — Ведаеце, хлопцы, трэба ўсё-ткі вярнуць граніцу назад...

— Як, назад? — сінія вочы Іванюка зліліся з блакітам паўтарачкі, прыведзенай для канчатковага замацавання ўчарашняй перамогі ў маленькай вайне за маленькую тэрыторыю.

— Ну, пакуль што — назад. Праз тыдзень трэба мне ў Маскву, пагавару, папрашу. Сталін не воўк, а чалавек, не пакрыўдзіць, — ці сапраўды так, капітан не ведаў і пры думцы пра сустрэчу з найважнейшым у свеце чалавекам сэрца выдаўжала крок, выбіваючы ў грудзях рытм шалёнага марша. Але ўцячы ад блакітных, па-бацькоўску знаёмых вачэй Іванюка таксама не было як. Адтэрміноўваючы праблему, хаваючыся ад яе ў самую вядомую і самую бяспечную стадыю свядомасці, сказаў: — А цяпер налі. Добрая твая самагонка, старык...

Так было тыдзень таму. І цяпер, выструніўшыся перад генералісімусам, капітан паўтарае: — Вельмі харошая самагонка ў Апацы. Сільная. Пячэ. А больш нічога там няма. Можа быць Саюзу гэтая дзярэўня, а можа і не быць...

— Гм. Харошая, кажаш, самагонка. Лучшэ, чэм віно Цынандалі? — Іосіф Вісарыёнавіч усміхаецца, а на памяць прыходзіць маленькая вінярня ў мястэчку Цынандалі. Залажыў яе Аляксандр Чаўчавадзэ, сын першага грузінскага пасла ў царскім Санкт-Пецярбургу.

З вінам „Цынандалі" свет пазнаёміўся ў 1894 годзе. Раскрыў рот, пасмакаваў і захапіўся. А дзяцюк Сасо якраз пачынаў адукацыю ў духоўнай семінарыі, што сваім шляхам раскрывала дзверы ў паўзмрочныя піўнічкі мясцовых айцоў. Таіліся там кадзі, запоўненыя далікатным белым „Напарэулі", сухім чырвоным, бы кроў горца, „Мукузані", а самыя сакрэтныя завулкі прыхоўвалі ад нахабнага вока вылузанае грузінскім сонцам з сакавітых шарыкаў „Ркацытэлі" залатое віно „Цынандалі". А вочы Сасо ў той час былі ўжо хуткія і пранізлівыя.

З-за гэтага „Цынандалі" ён не закончыў духоўнай семінарыі. Але не шкадаваў. Замест беспрадуктыўнага махання крапілам, сціскаючы ў руках аловак і лінейку, мог дзяліць свет на свой і чужы. Прыкладаў лінейку да вялікай мапы Еўропы, алоўкам вызначаў доўгія граніцы: „Гэта нам, а гэта вам!" Вянчаў народы, даваў ім новыя імёны, а калі хто запіраўся, не гуляючы ў залішнія паніхіды, выпраўляў оптам на іншы свет. І была яму гэтая праца даспадобы і куды больш адпаведнай за традыцыйныя шлюбы, хрысціны і паховіны. Пэўна, таму віно „Цынандалі" лічыў самым лепшым прадуктам у свеце.

А самагонку Іосіф Вісарыёнавіч не любіў.

Вось і зараз — прыкладвае люльку да мапы, можа, пацэліў якраз цыбуком у саломай крытую стадолу Уладзіміра Іванюка, а можа, у маленькую хатку Сямёна Ляшука, што згорбілася па супрацьлеглы бок вуліцы? У правую

руку бярэ аловак. Яшчэ раз зыркае на капітана Жлуктова, яшчэ раз усміхаецца. „Ну, жартаўнік. Кажа — самагонка добрая там. А няхай і застаецца таварышам палякам гэтае дабро. У нас і сваіх майстроў даволі", — і аб'язджае алоўкам наўкол запоўненага тытунём пуза. Аловак адштурхоўваецца ад цыбука, абмінае, пакідаючы з польскага боку Войнаўку, зігзагам коўзаецца на ўсход, перабягае прыдворны дзядзінец пана Драгабыцкага, выштурхоўваючы ў Савецкі Саюз дворскі сад і гаспадарчыя будынкі. Рассякае яшчэ напалову Бобінку, адразу за Клякавам вяртаецца ў Белавежскую пушчу. Быццам у кавалак сала паглыбіўшыся, наразае доўгую, дубова-зялёную шкварку і махае яе на захад. Як закуску для апацкай самагонкі.

Калі б летам 1945 людзі маглі кантактавацца паміж сабой шляхам тэлепатыі, першай з вялізнага крамлёўскага кабінета пайшла б інфармацыя ад капітана Жлуктова старому Іванюку. „Бачыш, дзядзька, — перадаў бы капітан. — Маеш, што хацеў. За Саўчуковай стадолай стане граніца". І Іванюк у гэты момант адкінуў бы прэч малаток і сякерку, і з саламянай страхі нырнуў бы ў высокую траву радасным шчупаком.

Але ў 1945 годзе ўсе, нават першага значэння інфармацыі перамяшчаліся тэлефоннымі дратамі, або эфірнымі сцежкамі радыяграмаў, або стомленымі ад'ютантамі-пасланцамі. І стары Іванюк застаўся там, дзе быў.

Ён сядзеў на страсе і абдзіраў яе з саламяных кулёў. І калі апошні снапок апусціўся на зямлю, прыхапіў сякеру, пачаў разбураць латы, енткі, кроквы. Глядзеў пры тым на панадворак, на гранічны слуп, што сумна тырчаў у палове сцежкі між хатай і стадолай.

А потым Іванюк глянуў на захад. Побач з вёскай Пагулянкай разлёгся шырокі луг. Зараз пасвіліся там каровы, але заўтра або паслязаўтра стане там ягоная хата. Трэба толькі добра намагчыся, разбурыць усё, да фундаментаў, а потым ад'ехаць трыста метраў ад польска-савецкай граніцы і нанова ўзвесці сцены, кроквы, дах.

Па другі бок вуліцы ў водгук Іванюку ляпаў малаток Сямёна Ляшука. Ляшук разбураў стадолу і таксама зірыў на захад, у лугі пад Пагулянкай.

Праз месяц, калі ўжо прыйдзе з Масквы добрая навіна, і Ляшук, і Іванюк складуць свае хаткі назад, на старое месца, а граніца расцягнецца пясчанай стужкай, абвядзецца калючым дротам, застыне сакрэтнай электрычнай сістэмай, запануе тут назаўсёды цішыня, і толькі час ад часу ноччу, калі дзік або алень кране яе хвастом безразумнай цікавасці, адгукнецца светлымі ракетамі.

# Змест



**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji